ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ-99

# Дарогі назад няма

## Рэжым мае намер прапанаваць апазіцыі ў чарговы раз наступіць на тыя ж граблі

Чым бліжэй дзень прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбараў, тым больш нервуецца Аляксандр Лукашэнка. Ягонае атачэнне ліхаманкава шукае новыя спосабы зрыву сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў. Па звестках нашых крыніцаў з адміністрацыі прэзідэнта, будзе прадпрынятая актыўная спроба прапанаваць апазіцыйным лідэрам, і ў першую чаргу дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, спыніць выбарчую кампанію і сесці за стол перамоваў з прадстаўнікамі прэзідэнта.

У гарод апазіцыі быў ужо закінуты напрыканцы мінулага тыдня «пробны каменьчык» — заява міністэрства замежных справаў Беларусі, якое паведаміла, што ўрад гатовы да дыялогу з апазіцыяй і зацікаўленымі міжнароднымі арганізацыямі. Гэтая, на першы погляд, даволі слушная міралюбівая прапанова на справе не што іншае, як чарговая пастка для апазіцыі. Каб заманіць у яе некаторых найбольш схільных да кампрамісаў палітыкаў, прэзідэнт Лукашэнка можа часова змяніць гнеў на літасць да сваіх апанентаў, а ягоныя прадстаўнікі могуць нават пайсці на некаторыя ўступкі. А потым, як і напярэдадні рэферэндуму 1996 года, калі таксама праводзіліся перамовы з апазіцыйным Вярхоўным Саветам, з дапамогай сілы і падманy зрабіць усё па-свойму.

Зараз жа для Аляксандра Лукашэнкі было б ці не самым аптымальным выйсцем давесці ўсю передвыбарчую прэзідэнцкую кампанію да стала перамоваў. Прычым для Лукашэнкі вельмі важныя не столькі вынікі перамоваў з апазіцыяй, колькі сам працэс. Яму неабходна выйграць час, бо эканамічная сітуацыя ў краіне вельмі складаная і ў грамадстве назіраецца ўзрост палітычнай актыўнасці. У людзей з'явілася імкненне змяніць кіраўніцтва дзяржавы. Напрыклад, згодна з апытаннем, якое праводзіла сацыялагічная служба «Зеркало», 47 працэнтаў мінчукоў маюць намер прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 16 траўня, а 20 працэнтаў апытаных яшчэ пакуль не вырашылі. І гэта ў той час, калі агітацыйная кампанія яшчэ не разгарнулася на поўную моц, калі ініцыятыўныя групы толькі збіраюць подпісы ў падтрымку сваіх кандыдатаў. Мяркуючы па тым, што ўзровень жыцця імкліва падае, колькасць жадаючых прыняць удзел у прэзідэнцкіх выбарах 16 траўня будзе няўхільна павялічвацца. Фактычна гэтыя прэзідэнцкія выбары могуць пераўтварыцца ў своеасаблівую агульнабеларускую акцыю пратэсту супраць збанкрутаванага рэжыму. Адмена ж прэзідэнцкіх выбараў і перамовы з Лукашэнкам у многіх людзей знішчаць веру ў дэмакратычныя сілы краіны і ў саму магчымасць дэмакратычных пераўтварэнняў. Таму ў беларускай апазіцыі, якая ініцыявала прэзідэнцкія выбары 16 траўня, зараз дарогі назад няма. Трэба зрабіць усё магчымае, каб давесці да лагічнага канца выбарчую кампанію.

Ні для каго не сакрэт, што ў шэрагах апазіцыі ёсць амбіцыйныя палітыкі, і яны могуць падтрымаць падкінутую прэзідэнцкім бокам ідэю «перамоваў», каб адсунуць на задні план сяброў-канкурэнтаў, якія ўжо ўзялі добры старт у выбарах.

Тым больш, што ідэю добраахвотнай адмены апазіцыяй прэзідэнцкіх выбараў і «ўрэгулявання» выбарчай праблемы за сталом перамоваў, хутчэй за ўсе падтрымаюць некаторыя міжнародныя арганізацыі. Напрыклад, тая ж АБСЕ. І гэта зноў жа будзе ў інтарэсах Лукашэнкі, які зацікаўлены ў працэсе перамоваў, каб і пасля 20 ліпеня застацца нават для заходнееўрапейскіх краінаў легітымным прэзідэнтам. Іншага прэзідэнта тады ў нас проста не будзе. І вельмі доўга.

**Адам РОЎДА**

# Вакол кампенсацыяў

**Кіраўніцтва беларускага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» правяло перамовы ў Боне з міністрам па асобых даручэннях спадаром Хомбахам.**

Як сказаў старшыня фонду Валянцін Герасімаў, у Боне ішла размова пра механізмы выплаты кампенсацыяў ахвярам нацызму, якія ў час Другой сусветнай вайны пад прымусам працавалі ў буйных нямецкіх фірмах. У перамовах таксама прымалі ўдзел прадстаўнікі аналагічных фондаў з Расіі і Украіны. Па словах В.Герасімава, цяпер чакаецца адпаведнае рашэнне нямецкага боку. Як лічыць В.Герасімаў, выплаты «остарбайтэрам» павінны праводзіцца ў Беларусі праз фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне».

Тым часам на нядаўняй прэс-канферэнцыі кіраўнік сусветнай арганізацыі беларускіх габрэяў Якаў Гутман сказаў, што з 1953 па 1996 гады Германія выплаціла ахвярам нацызму каля 65 мільярдаў долараў. Аднак, на думку Я.Гудтмана, існуе вялікі разрыў паміж тым, што плаціць ФРГ, і тым, што атрымоўваюць тут людзі. У гэтым найперш вінаватыя фонды і арганізацыі, якія займаюцца размеркаваннем кампенсацыяў.

**А.Д.**

ВЫСТАВА

# «Аўгустоўскі канал» – у Новым замку

**У Новым каралеўскім замку ў Гродне адчынена выстава твораў міжнароднага фотапленэра «Аўгустоўскі канал. Залатая восень-98». Гэтая мастацкая падзея адбылася ў мінулым кастрычніку на турбазе «Нёман».**

У пленэры ўдзельнічалі фотамайстры Беларусі і Польшчы, тэрыторыі якіх злучае канал. На выставе ўсім удзельнікам пленэра былі ўручаны дыпломы, фотаальбомы і памятныя медалі. На выставу ў Гродна прыехала гаспадыня фотагалерэі з польскага горада Кельцэ К.Пёнтэк, якая мае намер выставіць у сябе работы з «аўгустоўскага» пленэра. Але напачатку выстава пераедзе ў Аўгустоў, дзе ў траўні Беларускі фонд культуры супольна з палякамі правядзе навуковую канферэнцыю, прысвечаную гісторыі Аўгустоўскага канала. Па словах арганізатара экспазіцыі ў Новым замку, кіраўніка фотаклуба «Гродна» тэлежурналіста А.Ласьмінскага, выставу таксама ўбачаць жыхары Беластока, Варшавы і, магчыма, Мінска.

Дарэчы, сёлета спаўняецца 160 гадоў з часу вынаходніцтва фатаграфіі, і тады ж — у 1839 годзе — было завершана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, якое працягвалася 15 гадоў. Са 102 кіламетраў канала 22 пралягаюць па беларускай тэрыторыі, але наша частка знішчана, што добра відаць на фотаздымках. Ужо некалькі гадоў як распрацаваны праект яе аднаўлення, мінімальны кошт якога — 10 мільёнаў долараў.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Сам сябе здаў

**Унікальны выпадак адбыўся ў Наваполацку падчас правядзення пікета, прымеркаванага да Дня Канстытуцыі.**

У міліцэйскі пастарунак трапілі не ўдзельнікі акцыі, а чалавек, што абразіў пікетоўшчыкаў. Пажылы мужчына, знаходзячыся на добрым падпітку, падышоў да ўдзельнікаў пікета і выказаў ім сваё негатыўнае стаўленне да акцыі ў прыватнасці і да БНФ увогуле. Пры гэтым ён выкарыстоўваў выразы, далёкія ад літаратурных. На патрабаванне фронтаўцаў папрасіць прабачэння за свае словы гэты «чэсны» чалавек даслаў у іх бок чарговую порцыю абразаў. Тады пікетоўшчыкі вымушаны былі звярнуцца да міліцыянтаў, якія «ахоўвалі» акцыю. Яны затрымалі хулігана і даставілі яго ў пастарунак.

У міліцыі высветлілася, што гэты чалавек — падпалкоўнік у адстаўцы, галоўны інжынер мясцовага ЖЭУ-2 — фактычна «здаў» сябе сам. За нейкія паўгадзіны да затрымання ён патэлефанаваў у міліцыю, каб паведаміць, што «там стаяць бэнээфаўцы са сцягамі — прыязджайце іх забіраць». Выканаўшы свой «грамадзянскі абавязак», ён прыйшоў асабіста паўдзельнічаць у затрыманні. І паўдзельнічаў...

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «Трэба спыніць кашмар у краіне»

Пасля вызвалення Віктара Ганчара са спецпрыёмніка, дзе старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі правёў за кратамі 10 сутак, сталі вядомымі падрабязнасці яго затрымання і ўтрымання.

Нагадаем, што Віктар Ганчар быў арыштаваны спецназаўцамі ў першы дзень вясны. У ягонай машыне нагамі выбілі шкло, адзін са спецназаўцаў ударыў Ганчара кулаком па галаве, пасля чаго старшыню Цэнтрвыбаркама выцягнулі з машыны і павезлі ў гарадскі аддзел міліцыі. На шляху туды да В.Ганчара прымянялася сапраўднае катаванне: спачатку яго падвешвалі за наручнікі да столевых поручняў, а пасля пасадзілі на сядзенне, і адзін са спецназаўцаў высока ўздымаў Ганчара за скаваныя рукі, а другі прыціскаў да поручня ягоную шыю і ціснуў пры гэтым на барабанныя перапонкі вушэй.



*На месцы арышту Віктара Ганчара.*

Ніякіх дакументаў, на падставе якіх адбылося затрыманне, Ганчару не прадставілі. Проста ў аддзеле міліцыі правялі хуткае судзілішча, на якое, насуперак усім законам, не дапусцілі ні адваката, ні журналістаў, і наогул нікога з пабочных асобаў. Па словах В.Ганчара, на гэтым «судзе» яму нават не далі слова, і ўвогуле «паседжанне», у выніку якога старшыня Цэнтрвыбаркама атрымаў 10 сутак арышту, працягвалася 3 хвіліны.

У спецпрыёмніку, што на вул.Акрэсціна, В.Ганчар знаходзіўся ў камеры, дзе, акрамя яго, было яшчэ 3 чалавекі. З першага да апошняга дня арышту старшыня Цэнтрвыбаркама трымаў сухую галадоўку. Цывільных медыкаў да яго не дапускалі (нават «хуткую дапамогу»); турэмныя ж лекары, па словах жонкі Зінаіды, увесь час характарызавалі стан яго здароўя як здавальняючы або «блізкі да здавальняючага».

На пяты дзень галадоўкі Ганчара вывелі з камеры, зрабілі яму «ластаўку» (скавалі наручнікамі рукі і ногі за спіною) і гвалтоўна ўлілі ў рот 400 грамаў глюкозы. Як гаворыць В.Ганчар, пасля гэтай працэдуры ён адчуў сябе значна горш. Аднак галадоўкі не спыніў.

Сустракаць В.Ганчара пасля адсідкі сабраліся палітычныя актывісты і, натуральна, члены Цэнтрвыбаркама. У сярэдзіне дня да людзей выйшаў начальнік спецпрыёмніка падпалкоўнік Алег Палутаў і паведаміў: у ягонай установе Ганчара ўжо няма, ён вывезены невядома куды. Як высветлілася пазней, Віктара Ганчара яшчэ з раніцы адвезлі ў завулак Дабрамысленскі, у ізалятар часовага ўтрымання. Там яму прад'явілі крымінальнае абвінавачанне па артыкуле 190 — прысваенне паўнамоцтваў службовай асобы; гэты артыкул прадугледжвае пазбаўленне волі да 2-х гадоў.

Віктар Ганчар катэгарычна адмовіўся падпісваць якія б там ні было дакументы. Ён абвергафіцыйнае паведамленне, паводле якога Ганчар нібыта даў падпіску аб нявыездзе: ніякага подпісу ён нідзе не ставіў.

Каб прымусіць В.Ганчара падпісаць паперы, яго некалькі гадзінаў трымалі ў г.зв. «лядоўні», — але ніякага подпісу не дамагліся. Пасля гэтага знясіленага галадоўкаю чалавека паўтары гадзіны вазілі па горадзе на міліцэйскім аўтобусе, і ў 14:00, калі скончыўся тэрмін арышту, выкінулі ў адным касцюме ў снег за некалькі прыпынкаў ад дому.

«Хуткая дапамога», якую выклікала жонка Зінаіда, дабіралася да месца прыблізна гадзіну. У кватэры Ганчара медыкі знаходзіліся 45 хвілінаў. Па словах Зінаіды, лекарка «хуткай дапамогі» адразу заявіла аб неабходнасці тэрміновай шпіталізацыі. *«Чалавека ў такім стане трэба везці ў рэанімацыю»,* — пераконвала лекарка. Зінаіда, аднак, ад гэтага адмовілася па зразумелых прычынах. Хоць у першы дзень, кажа Зінаіда Ганчар, Віктар нават не мог прыпадняць галаву, каб зрабіць глыток вады.

Днямі старшыня ЦВК сустрэўся з журналістамі. *«Самое пытанне пра нейкія законныя падставы дзеянняў праваахоўных органаў гучыць проста здзекліва,* — заявіў Віктар Ганчар. — *Але я не маю намеру скардзіцца ў нейкія афіцыйныя структуры, паколькі ў нашай краіне апеляваць да права абсалютна бессэнсоўна. Галоўны спосаб нашай абароны — гэта публічнасць нашых дзеянняў і масавасць працэсу правядзення прэзідэнцкай кампаніі, што ўдалося забяспечыць.*

*У рэжыма адсутнічае прадуманая пазіцыя ў адносінах да прэзідэнцкіх выбараў. Ён дэманструе толькі панічны страх і дурныя, абсурдныя дзеянні. Мяне бянтэжыць толькі тая акалічнасць, што непрыкрыта шызафрэнічныя загады Лукашэнкі выконваюцца нармальнымі людзьмі.*

*Пры любых абставінах я буду займаць ранейшую пазіцыю,* — падкрэсліў В.Ганчар. — *Ёсць пастанова Вярхоўнага Савета — органа, які прызнаецца ўсёй сусветнай супольнасцю — і мы будзем бездакорна выконваць усе арганізацыйныя функцыі, прадугледжаныя заканадаўствам. Наступнае паседжанне камісіі будзе прысвечанае рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Трэба зрабіць усё, каб гэты кашмар у краіне спыніўся».*

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Прымушаюць прысягаць «канстъпуцыі»

Яшчэ напрыканцы жніўня 1998 г. група маладых гісторыкаў падала ў міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь неабходныя дакументы на рэгістрацыю «Беларускага Гістарычнага Таварыства». Спасылаўшыся на патрабаванне мінюста, якое зусім не прадугледжана ў Законе "Аб грамадскіх аб'яднаннях", нам паведамілі пра месячную адтэрміноўку. Потым, напрыканцы верасня 1998 г., рэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў была наогул прыпыненая — да падпісання дэкрэта прэзідэнта РБ № 2 ад 26 студзеня 1999 г. Кіруючыся гэтым дэкрэтам, мінюст даў Таварыству яшчэ адну адтэрміноўку на месяц. І вось, калі нашыя дакументы былі прыведзены ў адпаведнасць з новымі патрабаваннямі, камісія на чале з Уладзімірам Замяталіным выставіла Таварыству найноўшыя патрабаванні, якіх няма ані ў Законе "Аб грамадскіх аб'яднаннях", ані ў пастанове Савета міністраў аб парадку рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў, ані ў вышэйзгаданым прэзідэнцкім дэкрэце. Паводле аднаго з іх, Беларускае гістарычнае Таварыства павінна запісаць у сваім Статуце, што будзе ў сваёй дзейнасці кіравацца канстытуцыяй 1994 г. з дапаўненнямі, прынятымі «на всенародном референдуме 24 ноября 1996 года».

«Беларускае Гістарычнае Таварыства» выказвае пратэст супраць парушэння канстытуцыйнага права грамадзян на свабоду поглядаў і перакананняў і не лічыць магчымым надалей дамагацца рэгістрацыі на такіх умовах. Калі цяперашнія ўлады нашай дзяржавы не дазваляюць стварыць грамадскае аб'яднанне беларускіх гісторыкаў у Беларусі, мы паспрабуем зарэгістраваць яго ў якой-небудзь суседняй дзяржаве.

*Старшыня Рады БГТ* **Генадзь САГАНОВІЧ,**
*Выканаўчы дырэктар БГТ* **Кастусь ДАДЗЬКОЎ**

# Литовский прагматизм приносит плоды

## Восстановленный объем производства

По данным Департамента статистики Литвы, производство ВВП в этой стране в 1992 г. снизилось на 34 процента по сравнению с 1991 г. В 1993 г. его снижение достигло 30,4 процента по сравнению с 1992 г. С 1995 г. экономика Литвы вступила в фазу устойчивого экономического роста со среднегодовыми темпами в 5—7 процентов.

В 1998 г. производство ВВП на душу населения составило 2.734 доллара США, что превышало 4/5 от уровня 1991 г. Учитывая существующие тенденции, можно полагать, что уже в 2000 году Литва превзойдет наивысшие показатели плановой экономики на основе рыночного хозяйства.

За годы реформ в Литве созданы предпосылки гармоничного развития экономики. Инфляция в 1998 г. составила всего 3,7 процента, зарубежные инвестиции за этот же год выросли в два с лишним раза (2,2 млрд., или 586 долларов на душу населения). Официальные золотовалютные запасы Банка Литвы за 11 месяцев 1998 г. увеличились в 1,5 раза и достигли 1,43 млрд. долларов.

Наращивание производства сопровождается расширением внешнеэкономических связей Литвы. Так, доля стран дальнего зарубежья во внешнеторговом обороте увеличилась с 27 процентов в 1993 г. до 68 процентов в 1998 г. Поэтому Литва, в отличие от Беларуси, практически не сталкивается с проблемой бартера.

Из 3,7 млн. га имеющихся сельхозугодий 3,5 млн. га подлежат возврату в частную собственность, в том числе 3 млн. га в натуральной форме. 2 млн. га сельскохозяйственных и 11,1 процента лесных угодий уже переданы частным владельцам.

Минимальная заработная плата в прошлом году выросла на 7,5 процента и составила 107,5 доллара, средняя зарплата в ноябре равнялась 270 долларам, при том что минимальный прожиточный бюджет в расчете на 1 члена семьи равнялся 49 долларам, минимальный прожиточный минимум — 31 доллару. Среднемесячная пенсия по старости превысила 70 долларов. Средний размер пособия по безработице равняется 60 долларам.

## Не было развала

Вопреки расхожему мнению, никакого разрушения сельхозпредприятий в Литве не произошло. Были в колхозах, например, тракторы, теперь они перешли в частные руки. А созданный Фонд поддержки фермеров действует избирательно, поощряет конкурентоспособных производителей. Причем такими способами, которые в принципе исключают коррупцию. Так, крестьянин, получивший землю, в случае покупки первой новой единицы техники (за свои деньги) может получить от Фонда безвозмездную компенсацию в размере 1/4 ее цены. Так же поощряется продуктивность животноводства: при покупке племенного скота крестьянин получает компенсацию в размере до 4/5 разницы между ценой племенного и обычного скота.



Проблема «разрушения-созидания» имеет не колхозную природу. Литва, как и Беларусь, страдает от аграрного перенаселения. Поэтому, как считают литовские эксперты, около 30 процентов жителей села нуждаются в прямой поддержке, можно сказать, защите. По объективным показателям они никогда не поднимут свои хозяйства до требуемого рынком уровня. Среди остальных помощь получают те, кто демонстрирует возможности роста.

Около 1/4 средств Фонда расходуется на обеспечение гарантий по банковским кредитам на приобретаемую технику, на строительство. Примерно столько же идет на компенсацию разницы между ценами производителей и ценами, поддерживаемыми государством. Реальный рост экономики, а агросектор развивается как никакой другой, позволил переломить многие негативные процессы в жизни общества. Это относится и к борьбе с коррупцией, и к улучшению налоговой дисциплины. Соответственно, появились возможности повысить пенсии и иные социальные выплаты, поднять заработную плату.

В Литве завершается последний этап приватизации, связанный с передачей в частную собственность таких монополистов, как Литовские авиалинии, Телеком и Можейский нефтеперерабатывающий завод.

## Издержки роста

В сельском хозяйстве госсобственности нет вообще. Около 2/3 производства здесь приходится на долю индивидуальных хозяйств и фермеров, остальное производят так называемые общины, оставшиеся после колхозов. Их «коллективизм» объясняется отсутствием денег. У них есть общая техника, но земли нет, потому что организации не имеют права ее иметь. Хозяйствуют на землях, арендуемых у собственников. Таких обществ насчитывается около 2.000.

Есть, конечно, и издержки. Так, значительная доля земель не обрабатывается, потому что у людей нет денег, чтобы купить машины. Тут есть проблема. Литве пока не нужно больше, чем она производит. Определенную обеспокоенность вызывает мелкотоварность. Средний размер крестьянского хозяйства — 8 га. Но уже развивается земельный рынок, и хозяйства постоянно растут. Есть уже и относительно крупные, имеющие более 100 га сельхозугодий.

Рыночная цена 1 га колеблется в пределах 1.400—1.700 литов (350—410 долларов) и тоже растет. Для тех, кто не сможет на ней хозяйствовать, продажа будет самой естественной и эффективной формой социальной защиты.

Характерно, что цели реформы в Литве и Беларуси понимались и понимаются по-разному. Если у нас продолжают спор о том, кто накормит народ: колхозы или фермеры, то в Литве речь шла о восстановлении исторической справедливости, о возврате земель хозяевам или их наследникам. Никаких иных целей общество перед собой не ставило, и, как показала жизнь, такой подход оказался самым оптимальным.

## История нас рассудит

Правда, падение абсолютных объемов производства было значительным. Но, что примечательно, оно вполне сопоставимо с белорусскими показателями, хотя у нас полностью сохранена колхозная система.

Поэтому утверждение о том, что белорусы поступили мудро, сохранив свои хозяйства в первозданном социалистическом виде, а литовцы оплошали, «развалив» колхозы, у самих литовцев вызывает ироническую улыбку. Как заявила вице-министр сельского хозяйства г-жа Карлаускене на встрече с журналистами в Департаменте сельского хозяйства Литвы, никакого «развала» не было. Ведь никто не уничтожал основные фонды, техника перешла из колхозов в частные хозяйства, крестьяне как трудились, так и продолжают трудиться на земле. Снижение объемов производства произошло не столько по причине реформы, сколько потому, что сузился рынок. Но это обусловлено макроэкономическими и политическими причинами, прямого отношения к сельскому хозяйству не имеющими.

Колхозы самораспустились, но процесс определялся экономической целесообразностью. Исчезли орденоносцы-гиганты, а на базе их структурных специализированных подразделений образовались хозяйства нового типа. Литовцы называют их общинами, но при желании их можно считать и колхозами, если под последними понимать нормальные кооперативы. Главное отличие от советских колхозов заключается в том, что хозяйствуют они не на государственной земле, а на земле, арендованной у собственника (у юридических лиц отсутствует право собственности на землю).

Государство не самоустранилось от контроля за ходом экономических и социальных процессов. Оно изменило свои функции. Так, передавая леса прежним владельцам, государство сохранило контроль за их использованием: хозяин должен осуществлять уход за лесом, а всякие вырубки требуют согласования с государственным чиновником — лесничим. И, конечно же, собственник не допустит сплошной вырубки своего леса, как это практикуется у нас.

Помимо новых кооперативов, в Литве сохраняются личные подсобные хозяйства населения (средний размер земельного участка 2-3 га), которые производят значительную часть сельхозпродукции, особенно молока, но экономических перспектив не имеют в силу своей микроскопичности. Считается, что они являются пережитком бывшей системы и в скором времени отомрут. Но не ранее, чем исчерпают свои социальные возможности.

Опыт Литвы позволяет развеять и некоторые другие мифы, характерные для белорусского общественного мнения. Один из них о том, что частная собственность на землю приводит к спекуляции земельными участками. Землю в этой стране можно свободно продать, но собственники не спешат это делать, учитывая множество факторов, не только экономических, которые обязательно проявятся в будущем.

И, как здесь считают, главное, что может дать земля — это возможность строить жизнь по собственному усмотрению. Прежде всего ликвидировать деревню, которая существовала как жилая зона на территории животноводческих комплексов, и возвратиться к хуторному типу поселений. Государство намерено развивать инфраструктуру на селе, но больше всего в таких капитальных вложениях заинтересованы сами землевладельцы.

Что касается статистики, то, как нам сообщили в Сельхоздепартаменте, потребление мяса за эти годы сократилось, и теперь оно составляет 50 кг на душу населения. Но это нормальное мясо, а не условное прежнее, которое во многом «росло» за счет условных коэффициентов, позволяющих считать мясом «рога и копыта». В этом легко убедиться, посетив любой литовский магазин: продуктов изобилие, а цены ниже наших.

Агроэкономика Литвы будет развиваться. Как здесь считают, выгоду от этого могла бы получить и Беларусь. В первую очередь те предприятия, которые производят агротехнику и другую необходимую для сельского хозяйства продукцию.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

ЧЫТАЦКАЯ ДУМКА

# Лжеколхозы должны исчезнуть

При Сталине было внедрено в обиход слово «колхоз», которое обозначает будто бы коллективное хозяйство добровольно объединившихся крестьян. В действительности так называемые «колхозы» никогда не были коллективными хозяйствами колхозников, а были и есть полуфеодальными хозяйствами правившей или правящей номенклатуры. Если бы «колхозы» были в действительности колхозами, то никакие государственные органы или чиновники не могли бы указывать колхозам, что и как производить, кому и по какой цене продавать, проверять хозяйственную деятельность. Все это делали бы, определяли, проверяли сами колхозники, а государство только помогало бы им, когда его попросят. Если бы объединение крестьян в колхозы было добровольным, то каждый колхозник получил бы право не только в любое время по своему желанию выйти из колхоза, но и получить при этом то, что его отцы и деды или прадеды сдали в колхоз при коллективизации, вместе с полученной за все годы прибылью на сданные в колхоз большие ценности.

Состояние сельского хозяйства Беларуси такое, что, кто бы ни был у власти, обстоятельства вынудят проводить реформы. При этом существуют две противоположные крайности — ликвидировать колхозы или укрепить их. В обоих случаях имеет принципиальное значение, о каких колхозах идет речь — о созданных при Сталине и сохранившихся до сих пор лжеколхозах или о подлинно коллективных хозяйствах свободно объединившихся крестьян. Так называемые «колхозы» даже во время их максимального «расцвета» при Брежневе производили продукции столько, что СССР вынужден был покупать ежегодно, преимущественно в Америке, по 30 миллионов тонн зерна. А продуктивность подлинно коллективных хозяйств в СССР и в Беларуси никто не проверял.

Разумный хозяин никогда не вырубит старый сад, пока не вырастет новый, молодой. Неразумно предлагать роспуск колхозов (такие предложения были), пока не будут созданы крепкие фермерские хозяйства или хотя бы условия для их существования. Значительно легче и проще реформировать «колхозы» в подлинно коллективные хозяйства, чем создать крепкие фермерские хозяйства.

**В.БУСНЮК,** *Шклов*

# Мы будзем заможнымі

Мяне вельмі хвалюе лёс маёй Бацькаўшчыны, маёй Беларусі, што нацярпелася ўжо досыць. Мяне непакоіць лёс маіх дзяцей — у якім грамадстве яны будуць жыць, ці будуць вольнымі асобамі, або нехта будзе панукаць імі.

Час шматлікіх разбурэнняў мінае, надыходзіць больш складаны час — збірання і ўзвядзення, час метанойі, бо мы разбураны знутры і ў сваёй свядомасці.

Найперш, кожны, хто жыве на зямлі Беларускай, павінен з павагай адносіцца да матчынай мовы, што дадзеная нам Богам і без якой не выжывае ні адзін народ у свеце. Мы павінны будаваць нашу Радзіму па нашай гісторыі са славутымі сынамі і дочкамі, імёнамі каторых нам трэба перайменаваць амаль усе вуліцы нашых гарадоў і вёсак. Ісці належыць нам смела з вераю, што адроджваецца, ніваe чалавека ад жывёліны, з нашымі святынямі, якія ўзвысяць і зробяць нас годнымі сяброў іншых.

Нарэшце, справядлівасць і правільнасць законаў, надаючы павагу да самiх сябе навучаць нас берагчы тое, што заснуем мы самі. І з фермерска-ўласніцкай гаспадаркай, з прыватнымі ды акцыянерными прадпрыемствамі мы хутка станем багатымі і заможнымі.

Дзяржава, якая будавалася на хлусні, вынішчэнні, на жорсткасці, ганьбе і забароненасці, прыйшла ў канчатковы заняпад. Час рыхтаваць новыя сродкі, якія будуць трываць наш светлы, свабодны беларускі дом, які не захочам аддаць, ці прадаць нейкаму суседу, а захочам жыць і працаваць у ім самі.

**Наталля БОРДАК,** *Светлагорск*

# Свобода тружеников палки

*«Я призываю вас не к работе, а к борьбе»*
Фридрих Ницше

Итак, модель государства по-лукашенковски — скоропостижная диктатура — вступила в период своего упадка и разложения. Законы большей частью стали правом силы. Пышно расцвели нравы курятника, где вышесидящая птица всегда права.

Поддерживать такой порядок нелегко. Поэтому универсальным атрибутом и символом нынешней власти стала палка. Теперь граждане страны работают, отдыхают и празднуют из-под палки. Палка указывает им путь в светлое будущее, заботится о воспитании и нравственности, пишет историю, возражает оппозиции, занимается дипломатией, грозит неведомому супостату, поднимает экономику. Палка подпирает хлипкую конструкцию президентской вертикали...

Конечный результат, как мы знаем, печальный. Палкой накормить страну невозможно, а именно с этим у апологетов государственного насилия всегда самые существенные проблемы. Одно дело обещать и рассказывать сказки по телевизору, а другое дело – обещания исполнять. Народ все отчетливее понимает, кто его цинично обманул и довел до ручки страну.

Естественно, что в таких условиях видное место в обществе занимает фигура носителя овеществленной идеи — палки из резины, ее обладателя – милиционера. В современной белорусской политике ему отводится особая роль. В стране, где неофициальным точкам зрения на проблемы перекрыты все государственные информационные каналы, где выразить свое критическое отношение к существующей власти равнозначно гражданскому поступку, где всякое недовольство подавляется, а организаторы акций протеста беспощадно преследуются, в такой стране милиционер призван быть не только стражем общественного порядка, но и орудием устрашения. Его миссия — находиться все время на виду, в непосредственной близости от власти, символизировать собой некий «железный порядок», быть в постоянной готовности защитить все «завоевания» президента от наступления демократии.

Само собой разумеется, что ряды милиции должны множиться прямо пропорционально недовольству народа. Препятствует только пустая государственная казна. Но даже с учетом этого обстоятельства сегодня на каждые девяносто белорусских граждан приходится по милиционеру! И это не считая сотрудников госбезопасности, спецслужб, президентской охраны, внештатных осведомителей и других тружеников палки! Как нужно бояться своего народа, чтобы прятаться от него не только за бронированными дверями шикарных лимузинов, за стенами охраняемых резиденций, но и за спиной целой армии наятых людей!



Задолго до судного дня Лукашенко сам себя обрек на заключение. И совершенно напрасно! Палка не защищает от необходимости держать ответ перед законом. Палка не избавляет от презрения и ненависти обманутых людей. Палка не превращает честолюбца в законного президента.

Все течет, все изменяется. Александру Лукашенко нечего сегодня сказать белорусскому народу. Обещаниям его не верят, над речами смеются. Ругань и оскорбления на публику уже не действуют. Претендуешь на власть, — выйди на площадь, к народу! Выйди на выборы! Выйди на теледебаты с оппонентами, отчитайся, докажи свое моральное право руководить страной, которую ты не понимаешь, не ценишь и не любишь!

20 июля 1999 года кредит доверия народа закончится уже официально, и бывший президент перейдет в оппозицию к законной власти. И вот тогда он почувствует на себе истинную разницу между правом палки и Законом. «Кредиты надо возвращать», — утверждал Лукашенко сотни раз с телеэкрана. Пришло время, пусть покажет, как это делается.

После 20 июля президента наверняка постигнет искреннее разочарование в бывших соратниках, союзниках, помощниках. Но еще большее крушение ожидает его расчеты на силу палки! Лукашенко оторвался от действительности, когда стал чрезмерно беспокоиться о российских интересах. Закаленная в невзгодах, опытная, поддержанная всем цивилизованным миром белорусская оппозиция – по сути дела плоть от плоти белорусского народа. Ее корни — в народных массах. Она перехватила инициативу и сейчас **сражается за независимость своей Родины, против российской оккупации, за лучшую жизнь для белорусских граждан**. Что может противопоставить Лукашенко с группой своих «вчерашних» подручников святой идее Свободы, уже выстраданной нашим народом?

Сто тридцать тысяч милиционеров страны – это, за небольшим исключением, нормальные белорусские парни. Тоже, как говорится, плоть от плоти своего народа. Они видят, что Москва с подачи нынешней власти считает Беларусь своей губернией. Унижая их родную страну, президент унижает этих парней. В отличие от Лукашенко они дорожат своим будущим и будущим своих детей. Им не нужны наглые московские начальники, не хочется проливать кровь в Чечне и прочих горячих точках, не радует постоянная головная боль с российскими уголовниками, сделавшими Беларусь проходным двором. Им не нужно затоваривание наркотиками, нелегалами, беженцами, бродягами, попрошайками, в обилии наводнившими страну с территории восточного соседа. Они уже настоялись в заграждениях, намахались дубинками во время разгона демонстраций, набегались за старушками, вывозящими сметану и масло. Они уже наслушались оскорблений, нравоучений и разносов от разнокалиберных начальников. Нахлебались нынешней власти и плодов ее интеграции полной ложкой. И что взамен? Как оценивается их труд? Зарплата в 30–40 долларов, смешная пенсия, проблемы с обмундированием, жильем, поддержанием здоровья? Бесплатные похороны и ничтожная компенсация семье в случае, не дай Бог, гибели?

Что может предложить оппозиция при смене власти и выходе страны из ямы, в которую ее бросил нынешний режим? Зарплату в семь-десять раз большую, обучение престижным гражданским профессиям в случае сокращения, нормальное жилье в течение трех лет, повышение профессионального уровня в западных обучающих центрах, новое обмундирование ежегодно, государственное страхование жизни и здоровья на солидную сумму, службу только в Беларуси, оплачиваемую юридическую защиту, земельный участок в собственность и, после выхода на пенсию, кредит на строительство загородного дома. А главное — почет и уважение всего общества.

Угадайте с двух раз, какой вариант больше нравится парням с дубинками? Милиционеры нынче не желают быть тружениками палки. Они хотят быть хорошо оплачиваемыми защитниками правопорядка. В конце концов присягали они своей стране, а не нарушителю президентской клятвы, что бы ни заявляли от их имени разного рода «авторитеты».

У палки два конца. Так может быть президенту не стоит уповать на палку, как на средство разрешения всех своих проблем? В конце концов политика — это искусство возможного. А вернуть прошлое — увы! — невозможно.

**Александр ДУБРАВИН**

ІНТЭРВ'Ю

# Кася Камоцкая ў рэдакцыі НАВІНАЎ



*— Назіраеце Вы, спадарыня Кася, што-небудзь новае ў рок-н-роле на сённяшні дзень? Не будзем акрэсліваца межамі Беларусі.*

— Як раз варта разгледзець беларускі рок, таму што ён цалкам адрозніваецца ад рок-н-рола іншых краінаў. Рэч у тым, што на Беларусі ўлады праводзяць канкрэтна антынацыянальную палітыку, у адрозненне ад іншых дзяржаваў, і таму рок-н- рол у нас, асабліва беларускамоўны, выконвае тыя функцыі, якія выконвала гэтакая музыка першапачаткова — гэта музыка сацыяльнага пратэсту, і толькі на Беларусі гэтая з'ява мае нацыянальны маштаб.

У краінах былога Саюза сітуацыя ў грамадстве ў гэтым плане не такая цяжкая, а на Захадзе ўвогуле засталося пратэставаць супраць наркотыкаў і СНІДу, таму там усе напрамкі музыкі зблізіліся. Але гэта нармальна, чым лепей жыве чалавек, тым менш яму хочацца пратэставаць. Нават расійскія «ДДТ» ці «Акварыум» не выключэнне, атрымваючы ганарары большыя за Алёну Апіну, яны вымушаны дрэйфаваць у кірунку папсы, такія законы жанру.

*— «Новае Неба» зусім не мяняецца на працягу шмат гадоў. Спяваючы нягучныя песні, тым не менш застаецца ці не самай важкай камандай у сэнсе сацыяльнага гучання, рэзанансу вашых песняў.*

— Не ведаю, як на конт важкасці, але ў такой сітуацыі, як у нас, нельга мяняць не тое, што імідж, праблема не ў ім, проста калі ты нешта спеў і табе паверылі, трэба несці за гэта адказнасць.

*— Вы самая нонканфармісцкая постаць беларускага року, за што таварыш маэстра Фінберг не дазволіў Вам выйсці на сцэну ў Маладзечне.*

— Ёсць людзі, якія працуюць на мой імідж лепш за мяне. Ён сказаў, што баіцца, ну дык што я зраблю. Дзякуй яму, гэта была сапраўды вялікая паслуга, бо тое, што паказалі пасля па тэлебачанні зняло ўсе пытанні для ўдзельнікаў таго канцэрта.

Наша тэлебачанне для рокераў галаўны боль. З аднаго боку немагчыма без тэлевізійнага эфіру, з другога немагчыма мець нейкія праекты там, бо сорамна. Ёсць дзве праграмы, Акалада і Хіт-парад, дзе можна паказвацца, у астатнія ўступаць не хочацца.

*— Вы неяк скардзіліся на адсутнасць добрых тэкстаў.*

— Праблема істотная, відаць, сёння вельмі непаэтычны час. Ва ўсіх тых, з кім мы працавалі раней — Глёбус, Сыс, Таня Сапач, Анемпадыстаў, Бабкоў, вершы зараз не пішуцца. Таму зараз спрабую шукаць новыя шляхі, новыя імёны. Зараз вось паспрабавала напісаць песню на вершы Тані Снітко, думаю, што яна атрымалася, на тэкст Алеся Камоцкага. Увогуле зараз значна больш уважліва сачу за публікацыямі ў друку. З сумам, трэба зазначыць, сачу.

*— Наконт скандалу з «Песнярамі» Вы нешта здолелі б сказаць?*

— Што тут казаць. Уся размова ідзе пра грошы, і таму асабліва разважаць на гэты конт не хочацца. Шкада, бо музыканты выдатнейшыя.

*— Хутка едзеце ў Львоў.*

— Так, нас запрасілі на свой юбілей добры львоўскі гурт «Мэртвы півэнь», нашыя сябры, якіх мы збіраемся пасля запрасіць да сябе. Да таго ж хачу дадаць, што для беларускіх гуртоў самая рэальная сцэна, апроч Беларусі, вядома, гэта Украіна. Там да нас сапраўдная цікаўнасць, у адрозненне ад Расіі, дзе некаторыя нашы каманды патусаваліся ды зразумелі, што іх радзіма — Беларусь.

*— Чаго не спадзяецеся?*

— Ведаеце, я жыву адным днём, не выбудоўваю нейкіх планаў наперад, затое яны ніколі не руйнуюцца. Не атрымалася, значыць не лёс. Калі б я была рэалісткай, я даўно б з'ехала з краіны.

*— Так ужо моцна і зрабілі.*

— О'кей! Па-чалавечы іх можна зразумець і не можна асуджаць. Хочацца і самому лепш пажыць, і каб дзеці прыстроены былі. Але з'езджаць, не трэба адтуль... настойліва жадаць нам шчасця. Нявымушаная эміграцыя ёсць здрада, перадусім самому сабе. Я гэта кажу шчыра, і гэта датычыцца ўсіх, каго я ведаю.

*— Што, спадарыня Кася, яшчэ маеце дадаць?*

— У нашай краіне неаптымістам жыць нельга. Клімат адмысловы.

СПОРТ

# Белорусы берут медали

***

Минчанин Вадим Сашурин занял седьмое место в последнем соревновании мирового сезона — гонке преследования на 12,5 км в Холменколлене (Норвегия). Несколькими днями раньше Сашурин стал бронзовым призером чемпионата мира в гонке на 20 км со стрельбой на четырех огневых рубежах. Олег Рыженков из Могилева занял 11-е место. В женской гонке на 15 км Светлана Парамыгина показала восьмое время. Чемпионами же стали Олена Зубрилова (Украина) и Свен Фишер (Германия). Они же выиграли гонки с общего старта, в которых лучший из наших была Парамыгина — 10-е место.

Кубки мира по итогам сезона 98/99 вручены тому же Фишеру и Магдалене Форсберг (Швеция). Сашурин — восьмой.

***

Бронзовую медаль в упражнениях на брусьях заработала Светлана Жарганова из Витебска на проходившем в Москве турнире «Все звезды». Дмитрий Касперович на открытом чемпионате США по спортивной гимнастике занял восьмое место.



***

Открытый чемпионат России по современному пятиборью выиграла Елена Врублевская из Латвии. Известная белорусская пятиборка Жанна Шубенок — на втором месте.

***

В минском Дворце спорта прошел 5-й международный турнир памяти Германа Бокуна, который одновременно являлся этапом Кубка мира для саблистов-юниоров. Победу одержал германский фехтовальщик Деннис Бауэр. Денис Степанов из Бреста оказался лучшим из хозяев — шестым.

***

В полуфинальной стадии плей-офф Восточно-Европейской хоккейной лиги гродненский «Неман» встретится с латвийским «Металлургсом» из Лиепаи. В другом полуфинале сыграют между собой киевские клубы «Сокол» и «Беркут». Финалистами станут команды, одержавшие три победы над соперниками. На предыдущей стадии соревнований новополоцкий «Полимир» неожиданно проиграл в решающем матче «Металургсу» — 0:6, а минский «Тивали» еще раньше выбыл из борьбы после двух поражений от «Беркута».

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 522 Нумар падпісаны ў друк 16/03/99 (15:00) Наклад — 17.570 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.